# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1294) ГОД XXV БЕЛАСТОК 14 СНЕЖНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




**Па роднай зямлі.** На ўскраіне Міхалова. Фота Я. Целушэцкага.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Воўкушы

І хто б падумаў, што ў гэтай мясцовасці západ... 

І хто б падумаў, што ў гэтай мясцовасці заталася столькі гістарычных таямніц! Каб пасмакаваць у іх, трэба праехаць якіх 10-11 км па шашы Саколка-Кузніца і павярнуць налева — праз кіламетр прасціраецца гэтая вёска-вуліцоўка з рэдзенькімі сялібамі і параскіданымі па наваколлю хутарамі.

Першая таямніца Воўкушаў крыецца ва ўрочышчы, якое тут адны завуць Гарадзішчам, другія ж — Замкавай гарой. Некаторы час з яе паўночнага схілу розныя прадпрыемствы і тутэйшыя сяляне бралі жвір, і аб'екту пагражала знішчэнне. Тады нехта з дбаючых пра помнікі роднай даўніны паведаміў у Беластоцкі акруговы музей пра гэта. Археолагі сцвердзілі, што гэта рэшткі крэпасці з позняга сярэднявечча, і капанне жвіру спынілі. Абаронны вал (рэшткі яго ядрэнна захаваліся з паўдзённага боку) акружаў вялікі, бо памерам каля 70х50 метраў ў папярочніку дзядзінец. І гэта пакуль што ўсё, што могуць сказаць археолагі, бо паверхневыя даследаванні прынеслі толькі крыху чарапкоў керамікі, паводле якіх яшчэ нельга што-колечы меркаваць. Усё ж аб'ект унеслі за нумарам 205 у Спіс археалагічных помнікаў Беласточчыны і ён ахоўваецца дзяржавай. Пакуль археолагі прыступяць да раскопак і больш грунтоўнага яго даследавання (а такое наступіць, напэўна, не хутка), прыгадаем тое, што хоць крыху можа асвятліць мрок таямніцы. У 15 км на захад ад Воўкушаў, каля вёскі Трасцянка, знаходзіцца падобнае гарадзішча, якое археолагі адносяць да XI-XIII стагоддзяў. Побач з ім у даліне рэчкі Кладзевы знайшлі каменны брод, ён і пацвярджае існаванне тут у тыя часы нейкага рухлівага гасцінца. Сляды колішняга гарадзішча знаходзяцца ў 14 км на паўночны ўсход ад Воўкушаў, непадалёк хутара Альхоўнік каля Нова Двара. Таксама ёсць рэшткі сярэднявечных гарадзішчаў у некалькіх дзесятках кіламетраў у розных баках ад Воўкушаў. Усё гэта схіляе меркаваць, што ў сярэднявеччы гэтую тэрыторыю пакрывала даволі густая сетка ўмацаванняў, іх задачай было ахоўваць ад набегаў яцвягаў і літоўцаў мясцовае насельніцтва і землі, што ляжалі далей на поўдзень і захад. І тут міжвольна згадваецца апавяданне польскага храніста Мацея Стрыйкоўскага, якое ён напісаў з не дайшоўшых да нас усходнеславянскіх летапісаў пра князя Уладзіміра-галіцкага Рамана (нарадзіўся ён каля 1150 г. — загінуў у бітве ў 1205 г.).

Стрыйкоўскі пераказвае такое. Калі літоўцы з яцвягамі ўварваліся ў рускія княствы і захапілі вялікую здабычу, сабраўся на іх Раман і ўдала насціг у нейкіх нетрах. Мноства ўзяў у палон ды задаў ім цяжкую работу: загадаў закаваць у плуг і араць карэнне на новых

(Працяг на стар. 4)

Новыя вершы

# КАЗКА ПРА КАЗКУ

*Я даўно раздарыў*
*Свае даўнія казкі,*
*Што чуў ад байкарой*
*І заморскіх, і наскіх,*
*Ад звяроў і пярнатых,*
*Ад далінаў, узгор'яў,*
*Ад снягоў і дажджоў,*
*Ад вятроў і сузор'яў.*

*А малыя ізноў*
*Казкі новай чакаюць,*
*А дзе ўзяць мне яе*
*Ці як скласці — не знаю.*
*І вось тут раптам*
*Нечаканая ўдача:*
*На замерзлым акне*
*Казку дзіўную бачу.*

*У кашчэевым замку*
*Вясна жаліцца ў скрусе:*
*— Забярыце з няволі*
*Мяне, лебедзі-гусі.*
*Над снягамі, ільдамі*
*На кліч яе шчыры*
*Адусюль паспяшае*
*Вызваляць вясну вырай...*

*Я пачаў гэту казку*
*Малым баяць, ды толькі*
*Да канца не давёў.*
*Сонца яркай вясёлкай*
*Так, заслухаўшыся,*
*На акне зазіяла,*
*Што і казка мая*
*Ўвачавідкі растала.*

**Максім Танк**




**Беларуская песня-80.** Браніслава Сокал і Валянціна Чэпель з Навасад. Фота М. Шаховіча.

# ГОЛАС ЛЮДОЎЦАЎ

Быў гэта звычайны, прадбачаны статутам, з'езд прадстаўнікоў сялянскай партыі з Беластоцкага ваяводства. Праходзіў ён аднак у надзвычайнай абстаноўцы, выкліканай вядомымі падзеямі ў нашай краіне, і таму сяляне выкарысталі нагоду, каб сказаць **свае слова** ў асноўных справах, аб якіх зараз ідзе гаворка па ўсёй Польшчы.

Для прыкладу (і гэта голас у спрэчках), калі добра разабрацца ў прычынах драматычных падзей, якія патраслі нашай краінай у 1956 і 1970 гадах, а таксама і летам гэтага года, дык усё зводзіцца да крызісу ў вясковай гаспадарцы, да таго, што насельніцтву нашай краіны не хапае мяса, масла і другіх прадуктаў харчавання. Значыць, у аснову былі пакладзены памылкі ў галіне сельскагаспадарчай палітыкі, недаацэнка ролі сялянства ў працэсе будаўніцтва сацыялістычнага ладу ў нашай краіне.

Рабочы на фабрыцы (іду следам выступленняў) не турбуецца за станок, на якім ён працуе, нават не заўсёды ён ведае, колькі фабрыка за яго заплаціла. А дзе машыны для сялян? Ці нашы правадыры і вучоныя людзі, адказныя за планавае развіццё нашай краіны, не маглі прадбачыць і зразумець так простай справы, што з голымі рукамі можна толькі падскочыць да жонкі, а не брацца за апрацоўку зямлі і даваць высокую прадукцыю, каб хапіла харчоў для ўсіх грамадзян краіны.

Мы не хочам спецыяльных прывілеяў, адзначалі ўдзельнікі з'езду. Патрабуем толькі неабходнага. Бо да чаго дайшло?! Каб купіць звычайную цэглу, хаця адну, трэба найперш выпрасіць дазвол у начальніка гміны. І так амаль з усім іншым, не ўспамінаючы ўжо аб трактарах і машынах, асабліва такіх, як бульбакапалкі, растрасальнікі сена, малыя электраруханвікі і так далей. Толькі хадзі і, як той дзед касцельны, выцягвай руку за міласцінай, за якую трэба дорага плаціць.

Цэны на сялянскія прадукты — важная справа. Вядома, трэба, каб гаспадар ведаў, што аплоціцца яму — не з дзяржаўнай, але з уласнай кішэні — выдаваць сотні тысяч злотых на гаспадарчыя будынкі, на машыны, прылады і хімікаты (каб толькі ўсё гэта было дзе купіць!). Гэта справа важная, але не найважнейшая, што найбольш наглядна доказвае прыклад з бульбай. Бульбы няма, яна вымакла, а часткова яе замарозілі. І што? Нават на тысячы злотых за цэнтнер сяляне яе не прадаюць! Цяпер, калі яе няма, дык што, грошы знайшліся, каб за бульбу плаціць проста дурацкую цану? А раней не было разумнага, каб падумаць, што трэба біць, каб забяспечыцца ад паводак або засухі?

Нашы палі і сенажаці чакаюць дрэнажу і меліярацыі, вёска чакае звычайнай вады для піцця людзям і жывёле. Дрэнаж і меліярацыя дала б магчымасць рэгуліроўкі запасаў вады. Адначасова неабходна нам будаваць невялікія, мясцовага характару, вадасховішчы. Не, не адразу штучныя азёры, каб ганарыцца імі, што яны найбольшыя ў краіне, што на берагах іх можна будаваць багатыя дачы. Капаць трэба звычайныя ставы ці сажалкі. Іх роля аграмадная. У дождж яны збіралі б празмерную колькасць вады, у засуху — з гэтых вадаёмаў паступала б вільгаць на нашы палі і сенажаці. Карысць вялікая, а грошы малыя.

Такі больш-менш асноўны сэнс мела гэтае **слова** людоўцаў, якое паўтаралася ў многіх выступленнях прадстаўнікоў ЗСЛ у час ваяводскага з'езда ў Беластоку.

З'езд выбраў новы Ваяводскі камітэт страніцтва і прыняў пастанову, асноўны сэнс якой зводзіцца да таго, што члены Аб'яднанага людовага страніцтва бяруць на сябе адказнасць за сельскагаспадарчыя справы Беластоцкага ваяводства, але таксама патрабуюць ад сваіх партнёраў раўнапраўнага ўдзелу ў вырашэнні карэнных спраў вёскі.

Зараз на Беласточчыне дзейнічае **дзесяцітысячная** арганізацыя людоўцаў. У іх радах многа беларусаў. Многія з іх з'яўляюцца выдатнымі дзеячамі і актывістамі сваёй партыі. Гэта, для прыкладу, **Кастусь Мішчук** з Літвінавіч, **Мікалай Пракапюк** з Курашава ў Чы-

(Працяг на стар. 4)

## VII Пленум ЦК ПАРП

У днях 1-2 б. м. працягваў работу VII Пленум ЦК ПАРП. Па дакладу Першага сакратара ЦК ПАРП С. Кані Пленум прыняў рашэнне „Задачы партыі ў барацьбе за сацыялістычны характар абнаўлення грамадскага жыцця“.

Пленум пастанавіў склікаць IX надзвычайны з'езд ПАРП у канцы першага або ў пачатку другога квартала 1981 года. Створана камісія па падрыхтоўцы з'езда, якую даручана ўзначаліць С. Кані. Галоўная задача камісіі — распрацоўка праектаў праграмных дакументаў, якія будуць знаходзіцца ў цэнтры ўвагі перадз'ездаўскай дыскусіі.

Пленум разгледзеў арганізацыйныя пытанні.

З саставу ЦК ПАРП выведзены Э. Герэк. Пленум абавязаў Цэнтральную камісію партыйнага кантролю разгледзець персанальную справу П. Ярашэвіча і прыняць рашэнне адносна яго прыналежнасці да партыі.

Пленум вывеў з саставу Палітбюро ЦК ПАРП В. Кручка, А. Каркошку, С. Кавальчыка і А. Вэрбляна. А. Вэрблян вызвалены таксама ад абавязкаў сакратара ЦК ПАРП.

Пленум выбраў членамі Палітбюро ЦК ПАРП М. Мочара і Т. Грабскага, кандыдатам у члены Палітбюро — Т. Фішбаха, сакратаром ЦК выбраны Р. Нэй.

## ХРОНІКА

21 лістапада наш літаратар Сакрат Яновіч правёў аўтарскія сустрэчы ў пачатковай школе № 3 у Бельску, а пасля ў гэтым жа будынку чытаў свае творы ў беларускім ліцэі, у пачатковай школе ў вёсцы Аўгустова, у Доме культуры ў Бельску. Адказваў таксама на пытанні прысутных.

### *КАЛЯНДАР*

**350 гадоў назад**

17.12.1630 пам. М. Сматрыцкі, беларускі і ўкраінскі царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік-палеміст.

**210 гадоў назад**

16.12.1770 нар. Л. ван Бетховен, нямецкі кампазітар.

**155 гадоў назад**

14.12.1825 дзекабрысты, рускія дваранскія рэвалюцыянеры, паднялі паўстанне супраць самадзяржаўя і прыгону.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch” Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.
Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel. 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch” na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch”, w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.
„Niwa” — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671. Zam. 1913. Nakład 7.800 i. 2.





*Будынак Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

# КУПАЛАЎЦЫ АДКРЫВАЮЦЬ ЗАСЛОНУ

Першы прафесіянальны мастацкі калектыў у гісторыі беларускай сцэны даў сваё першае прадстаўленне 14 верасня 1920 года.

Цяпер немагчыма сабе ўявіць развіццё савецкага тэатральнага мастацтва без калектыву купалаўцаў. А шэсцьдзесят год таму назад маладыя энтузіясты беларускай сцэны сабраліся разам і пад кіраўніцтвам больш вопытных сваіх сяброў — Фларыяна Ждановіча, ЕўсцігнеяМіровіча, Мікалая Папова — заглыбіліся ў мастацтва, каб вобразна і павучальна расказаць пра часы і пра сябе. Прэм'еры 20-х гадоў паказалі, што імкненне малалых беларускіх артыстаў да рэальнага адлюстравання жыцця арыгінальна і натуральна спалучаецца з унутранай творчай свабодай, якую яны пераняЛі ад вандроўных аматарскіх калектываў, ад стылю ігры на сцэне калектыву І. Буйніцкага і артыстаў У. Галубка. Славутая „Паўлінка“ Янкі Купалы, якая стала, між іншым, візітнай карткай тэатра, „Кавальваявода“ Е. Міровіча, „На купалле“ М. Чарота і нават мальераўскі „Мешчанін у шляхоцтве“ выконваліся з асаблівым дэмакратызмам, акцёры па-народнаму перадавалі сваёй ігрой народныя жаданні і імкненні.

Уладзімір Крыловіч, Генрых Грыгоніс, Барыс Платонаў, Лідзія Ржэцкая, Кацярына Міронава, Уладзімір Уладамірскі, Вольга Галіна, Міхаіл Зораў, Глеб Глебаў, Ірына Ждановіч, Леанід Рахленка — яны з сузор'я першых купалаўцаў.

Час уносіць свае натуральныя змены і ў склад калектыву, і ў спосабы паказу на сцэне праўды жыцця, і ў рэжысуру, але нязменным застаецца майстэрства выдатных акцёрскіх індывідуальнасцяў. Здавалася б, амаль кожны акцёр, асабліва калі ён выконвае галоўную ролю, мае права на першынство, на „прэм'ерства“ ў святле рампы. І ўсё ж дух тэатра, які запанаваў тут шэсцьдзесят год назад і захоўваецца да сённяшняга дня, вядзе гэтыя вялікія мастацкія сілы да згоды, да гармоніі. „Кастусь Каліноўскі“ Е. Міровіча, „Бунт“ Д. Фурманава, „Бранепоезд 14-69“ У. Іванова, „Мост“ Я. Рамановіча, „Гута“ Р. Кобеца, „Платон Крэчат“, „У стэпах Украіны“, „Фронт“, „Калінавы гай“ А. Карнейчука, камедыі К. Крапівы і А. Макаёнка, „Пагібель воўка“ Э. Самуйлёнка, „Гэта было ў Мінску“ А. Кучара, „Канстанцін Заслонаў“ А. Маўзона, „Шчасце паэта“ В. Віткі, „Людзі на балоце“ І. Мележа, „Выклік багам“ А. Дзялендзіка, „Амністыя“ М. Матукоўскага — гэта творы сучасных аўтараў, якія здабылі папулярнасць у гледачоў і якія крытыка прызнала высокім дасягненнем.

Высокае акцёрскае майстэрства гэтага калектыву пераканаўча пацвярджае таксама класіка. Падзеяй у сцэнічнай гісторыі „Апошніх“ М. Горкага стала прэм'ера Першага Беларускага драматычнага тэатра ў 1937 годзе. Упоравень з лепшымі ўвасабленнямі дзівоснага характару Фёдара Пратасава ў драме „Жывы труп“ Л. Талстога ўзняўся Барыс Платонаў у пастаноўцы 1961 года. У сцэнічным летапісе такіх твораў, як „Рамэо і Джульета“ У. Шэкспіра, „Нора“ Г. Ібсена, „Скупы“ Мальера, „Ліса і вінаград“ Г. Фігейрэда, „Выспа Афрадыты“ А. Парніса, „Забыты ўсімі“ і „Дзівак“ Н. Хікмета, „Што той салдат, што гэты“ Б. Брэхта — знойдзенае і ажыццёўленае купалаўцамі не згубіцца, бо творчыя здзяйсненні Паўла Малчанава, Ірыны Ждановіч, Глеба Глебава, Сцяпаніі Станюты, Лідзіі Ржэцкай, Віктара Тарасава, Зінаіды Браварскай, Здзіслава Стомы, Генадзя Аўсяннікава, Аўгуста Мілаванава, Ліліі Давідовіч, Марыі Захарэвіч, Генадзя Гарбука і іх сяброў расшыраюць наша ўяўленне пра магчымасці сучаснага акцёра выступаць сааўтарам драматурга ў стварэнні вобраза чалавека.

Шэкспір і Мальер, Астроўскі і Чэхаў, Запольская і Шэрыдан, Горкі і Хікмет, Гюго і Славацкі набываюць тут беларускую мову. Ужо гэта ўносіць у мастацтва тэатра непаўторную вартасць.

Янка Купала часта бываў у крэслах партэра Беларускага драматычнага тэатра. Утойваў сваё хваляванне, як глядзеў на ажываючых на сцэне герояў „Паўлінкі“ і „Раскіданага гнязда“. Калі 14-гадовая І. Ждановіч дэбютавала ў ролі Данілкі ў драме „Раскіданае гняздо“, Янка Купала захапляўся, прыгаворваючы: „Вось гэта самы праўдзівы Данілка!“ — і паслаў за кулісы пачынаючай артыстцы ганарар — жменю цукеркаў. Я. Купала быў першым дарадчыкам драматурга і рэжысёра Е. Міровіча пры пастаноўцы п'ес з гісторыка-рэвалюцыйным і фальклорным выразам, прыхільна аднёсся да стварэння З. Бядулем і К. Чорным аўтарскіх версій аповесці „Салавей“ і рамана „Бацькаўшчына“. Пры гэтым, справа не столькі ў паасобных выяўленнях замілавання да тэатра: купалаўская паэзія і мастацкі каларыт яе праўды жывіць творча ўяўленне калектыву акадэмічнай сцэны.

**Барыс Бур'ян**




**Відава ● З надзеяй ● Бельская малачарня ● Экскурсія ў Мурманск ● Каравайніца ● Ратунак ад смерці ● Палоска Дзядзькі Кваса ● Калі жыццё сабачае ● Нараўка прымае турыстаў ● Беларуская літаратура ● Бібліяграфічны куточак ● Весткі з Бандароў, Кузавы, Чаромхі, Бельска, Дубіч Царкоўных, Дубяжына, Міхалова ● Вер — не вер ● Парады ● Песня Булата Акуджавы „Франсуа Вийон“.**




**Niedziela 14 XII** — 6.20 TTR Upr. rośl. s. III. 6.50 Hod. zwierz. s. III. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek oraz film „Niedźwiedź pana Adamsa”. 10.20 Antena. 10.50 Rep. film. 11.15 Piękne głosy — B. Paprocki. 12.05 Dziennik. 12.25 Dlaczego? 13.10 Przygody Sindbada. 13.35 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Henryk IV król Francji (6). 21.10 Sportowa niedziela. 21.40 Tylko w niedzielę (c.d.)

**Poniedziałek 15 XII** — 13.30 TTR, RTSŚ — Chem. s. I. 14.00 Wskaz. metod. 15.20 Nurt — Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.15. Arsene Lupin — odc. pt. Osiem uderzeń zegara. 18.10 Krok po kroku. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr tel. J. Słowacki — Kordian. 21.55 Czy powróci El Dorado? 22.25 Dziennik. 22.35 Śledztwo zostało wznowione.

**Wtorek 16 XII** — 6.00 RTSŚ, TTR — Chem. s. I. 6.30 Wskaz. metod. s. 1. 8.10 Dla szkół: Hist. kl. VIII. 9.00 J. pol. kl. VI. 9.55 J. pol. kl. II lic. 12.50 Kl. I—II lic. Rodzina współcz. 13.30 RTSŚ, TTR — J. pol. s. III. 14.00 Fiz. s. III. 14.30 Giełda miliarderów. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Interstudio. 17.20 Wojna i pokój z Czarniny — film dok. 17.35 Telewizja Młodych. 18.15 Królik Bugs przedst. 18.40 Polska Kronika Filmowa. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.10 Opisanie świata. 19.30 Dziennik. 20.10 Syberia — odc. 5. 21.20 Prawdę mówiąc. 21.55 Dziennik. 22.10 Hokej na lodzie. CSRS — Szwecja. 23.00 Giełda miliardów.

**Środa 17 XII** — 6.00 RTSŚ, TTR — J. pol. s. III. 6.30 Fiz. s. III. 9.00 Chem. kl. VII. 9.55 Fiz. kl. VII. 11.55 Fiz. kl. VIII. 13.30 RTSŚ, TTR — Mat. s. I. 14.00. Biol. s. I. 14.30 Giełda miliardów. 15.20 Nurt — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Dom i my. 17.40 Los. Małego i Express Lot. 17.50 Forum korespondentów. 18.15 Małe kino. 18.20. Turystyka i wyp. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Nazywam się Stelios — szwedzki film obycz. 21.40 XYZ — cz. I. 22.10 Dziennik. 22.25 XYZ — cz. II. 22.55 Trybuna Literacka. 23.30 Giełda miliardów.

**Czwartek 18 XII** — 6.00 RTSŚ, TTR — Mat. s. I 6.30 Biol. s. I. 9.00 Przysp. obr. kl. VIII i I lic. 12.50 J. pol. kl. I—IV lic. 13.30 RTSŚ, TTR — Mat. s. III. 14.00 Biol. s. III. 14.30 Giełda miliardów. 15.15. Pr. dnia. 15.20. Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn motor. 17.55 Poligon. 18.20 Telewizja Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Aniołki Charliego — odc. pt. Aniołki w wojsku. 21.00 Pegaz. 21.50 Listy naszych czytelników — dramat obycz. TP. 22.15 Dziennik. 22.30 Hokej na lodzie. ZSRR — CSRS. 23.20 Giełda miliardów.

**Piątek 19 XII** — 6.00 RTSŚ, TTR — Mat. s. III. 6.30. Biol. s. III. 9.00 Dla szkół: Geogr. kl. V. 9.55 Geogr. kl. VI. 11.00 kl. I—II. 11.55 Wych. ob. kl. VIII. 13.30 TTR — Hod. zwierz. s. I. 14.00 Mech. rol. s. I. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 Nurt — Wych. estet. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Giełda. 17.35 Klub dobrej książki. 18.00 Tajemnica Enigmy — odc. 6. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.05 Telewizja Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Mała antologia satyry. 21.25 Listy o gospodarce. 22.05 Dziennik. 22.20 Skandal — jap. dramat obycz.

**Sobota 20 XII** — 7.00 TTR — Hod. zwierz. s. I. 7.30 Mech. rol. s. I. 8.00 Hod. zwierz. 8.30 Mech. rol. s. III. 9.00 Pr. dnia. 9.05 Radar. 9.20 Człowiek, Ziemia, Kosmos. 9.50 Koncert symf. 10.45 Klub Sześciu Kont. 11.50 Dziennik. 12.10 Studio 2. 18.50 Dobranoc. 20.10 Michał Strogow — odc. 6. 21.20 Studio 2 — c.d. ok. 23.00 Kino Nocne. Zabijcie mnie, jeśli zdołacie — ameryk. film krym.




**Piątek 12 XII** — 8.10 Film fab. 16.00 Koncert. 20.45. Międzynar. zawody w j. fig. na lodzie.

**Sobota 13 XII** — 8.00 Koncert. 10.30 Język ojczysty. 12.45 Film fab. 14.25 Film anim. 14.50 W świecie zwierz. 16.20 Wieczór poświęcony 60-leciu teatru im. J. Kupały. 18.00 i 20.45 Międzynar. zawody w j. fig. na lodzie. 21.25 Pr. estrad.

**Niedziela 14 XII** — 7.15 Koncert. 12.00 Film fab. 14.45 Klub podróży. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Międzynar. zawody w j. fig. na lodzie.




**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Cygańska miłość — buł. 16—17. Przygoda arabska — ang. 18—19. Fist — USA 20—21.

**Bielsk Podl.** Słońce hien — tunez. 15—16. Gdzie się podziała 7 kompania — fr. 17—19. Piękna i potwór — czes. 20—21.

**Czeremcha** Prywatne piekło — USA 16—17. Paciorki jednego różańca — pol. 20—21.

**Czyże** Chłopiec z burzy — austr. Ostatni raz — USA 17—21.

**Gródek** Dzień mojej miłości — czes. 20—21.

**Hajnówka** Spotkanie na Atlantyku — pol. 15—16. Godziny grozy — ang. 17—18. Cienie gorącego lata — czes. 19—20. Handlarz bronią — wł. 21.

**Michałowo** Afera „Concorde” — wł. 16—17. Dzień weselny — USA 18—19. Nokaut — jug. 20—21.

**Milejczyce** Przygoda arabska — ang. Boska Emma — czes. 17—21.

**Narew** Pantalej — buł. Pojedynek — ang. 17—21.

**Nurzec** Gra o jabłko — czes. 16—17. Ofiara — węg. 18—19. Błękitna płetwa — austr. 20—21.

**Orla** ...cóżeś ty za pani — pol. Prywatne piekło USA 17—21.

**Rajsk** Chłopiec z burzy — austr. Ostatni raz — USA 17—21.




# ТРЫМАЦЦА РАЗАМ

Вельмі разумна і карысна піша дзядзька Максім у сваім артыкуле „Я вам — вы мне“. Дае заклік, каб беларусы трымаліся разам. Адзін другому памагалі. Адзін другога разумелі. Адзін другому былі блізкія. А ці так ёсць? А дзе ж там! Нават родныя дзеці бацькоў не хочуць знаць, а што гаварыць пра чужых. Другая палавіна дзядзькавага загалоўка на цяперашні час дык пасуе — вы мне. А першая — я вам — дык зусім не ў пару.

Замнога ў нас зайздрасці, а мала кахання да бліжняга. Прабачце мне! Ёсць такія сярод нас, што ў горадзе забываюць сваю мову. Думаюць, што не ўмеючы гаварыць па-другому, калякаючы, робяцца разумнейшымі, граматнейшымі. А дудкі! Тым выдаюць сябе, што нічога не ўмеюць і нічога не разумеюць. Нічога не зробіш. Чалавека перавыхаваць вельмі цяжка. І зноў прымаўка: „З якой лысінай цяля народзіцца, з такой і здохне“. І так, дзядзьку Максіме! Тады мы трымаемся разам, калі сядзім за сталом і маем трошачкі ў чубе. А калі апынемся сярод нашых штодзённых спраў, змяняемся. Многа сярод нас людзей такіх, як кажуць, — куды вецер, туды і я. Так яно было, так і будзе. Хоць, барані Бог, некаторыя могуць пагневацца. Ёсць і сапраўдныя патрыёты. А прыклад хачу даць мне і ўсім знаёмага карэспандэнта і чытача „Нівы“ Тамаша Кірылава з Легніцы. Аб ім „Ніва“ пісала некалькі разоў і я яшчэ хачу напісаць. Ведаеце, даражэнькія? Калі я расказваў аб ім сваім бацькам і суседзям, якія ў нас зыйшліся, проста не верылі. А адзін нават пацілху слязінку змахнуў. Бо самі падумайце. Тамаш Кірылаў нарадзіўся на Беларусі. Сам аб гэтым пісаў. Пражываў у Францыі. Цяпер жыве ў Легніцы. А як сам кажа, дзе б ён не быў, якой мовы не вывучаў бы, заўсёды чуўся беларусам. Мова беларуская была і ёсць яму найпрыгажэйшая і найдаражэйшая. Вось гэта чалавек! Гэта беларус! І ўсё гэта святая праўда. Ён жа на з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“ ў Беласток, зімою, ехаў 17 гадзін. А чалавек гэта немалады. Ён ужо на пенсіі. Хацеў пабыць сярод беларусаў, сярод сваіх, як сам казаў. І твар яго ў такіх размовах робіцца вясёлы, з прыемнай усмешкай. Калі з ім спатыкаешся першы раз, здаецца, як бы ўчора разыйшліся. Таму, што ён рады кожнай сустрэчы ў беларускім асяроддзі. Вось такі наш знаёмы Тамаш Кірылаў! А заклік дзядзькі Максіма да гэтага чалавека якраз пасуе: „Я вам — вы мне!“ Таму, што ён будзе заўсёды трымацца разам. Напэўна паможа ў кожнай бядзе. Чалавека можна пазнаць адразу. І напэўна калі б вы апынуліся ў яго доме, ён будзе вам вельмі рады і прыме з адкрытай беларускай душой. Так я думаю, дарагія карэспандэнты і чытачы. А што вы на гэта?

**Г. Мароз**

# ГОЛАС ЛЮДОЎЦАЎ

жоўскай гміне, **Васіль Астапкевіч** з Беражышча ў гміне Чаромха.

Сярод многіх іншых важных спраў людоўцы выказаліся таксама і ў абароне культурнай спадчыны нашай зямлі. У пастанове, між іншым, чытаем:

*„Перш за ўсё трэба болей рашуча заняцца аховай помнікаў матэрыяльнай культуры вёскі, апекай над народнымі ўмельцамі і развіццём сучаснага самадзейнага мастацкага руху“.*

Людоўцы Беласточчыны прадэманстравалі сваю ахвоту да плённай працы і выказалі свае турботы за будучыню нашай краіны. У многіх выступленнях паўтараўся заклік: **хопіць бурлівай гаворкі і беспарадку! Час на добрасумленную працу!**

**Віктар Рудчык**



(Працяг са стар. 1)

# Воўкушы

месцах, па-руску гэта значыць „чистити“. Адзін літовец, калі ўжо навучыўся гаварыць па-руску, цягнучы цяжкі плуг, так прамовіў да князя: „Рамане, Рамане, ліхім ты жывеш — літвою арэш!“ Рускія летапісцы таксама сцвярджаюць, што князь Раман на доўгія дзесяцігоддзі забяспечыў рускія землі ад нападаў ваяўнічых суседзяў з поўначы. Усё гэта і падмацоўвае меркаванне, што якраз князь Раман на пераломе XII і XIII ст.ст. пабудаваў тут цэлую сістэму крэпасцей, сярод іх і тую, што некалі пагрозліва высілася ва ўрочышчы Гарадзішча каля сённяшніх Воўкушаў.

Другая таямніца — гэта дзівосная мураваная капліца, што стаіць на пагорку ў паўдарогі ад шашы да вёскі. Пагорак усланы вялікім каменнем і можа аказацца магільным курганом з першых стагоддзяў нашай эры або могілкамі пазнейшага часу. А капліца? Яе архітэктары залічылі да аб'ектаў у стылі барока з канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. Як кажуць старэйшыя ваўкушане, у нішы пад самым крытым чарапіцай дашком каплічкі некалькі дзесяцігоддзяў таму назад знаходзілася выкаваная з жалеза фігурка пелікана, распасціраючага крылле над гняздом з яйкамі. Пастушкі-сваволькікі, цаляючы ў жалезную птушку каменнем, звалі ўсю жалезную кампазіцыю з месца, і яна правалілася ў пустую сярэдзіну капліцы. Легенда кажа, што каля яе закапаны вялікі залаты скарб, а па начах праязджаючым ці праходзячым побач явіцца то авечка, то падсвінак, то конская галава. Асеннімі вечарамі тут успыхвае дзівоснае святло і доўга блукае па наваколлю. І што вы на такое?

Дагэтуль пагорак не кранула лапата археолага, затое лапаты шукальнікаў залатых скарбаў яго ў розныя часы крыху пакрэмзалі. Не знойдзены таксама хоць які-колечы дакументальны запіс пра пабудову капліцы. І тут яшчэ на дадатак гэты пелікан! У сярэднявечнай Еўропе ён быў сімвалам самаахвяравання: легенда казала, што пелікан корміць птушанят вырванымі ўласнай дзюбай кавалкамі свайго цела! Хто ж і чаму адрадзіў гэты сімвал у рацыяналісцкую эпоху Асветніцтва? І калі пачаць губіцца ў безлічы розных здагадак, то нельга, між іншым, абмінуць таксама загінуўшых у чэрвені 1812 г. французскіх салдат і афіцэраў у часе першых сутычак з часцямі рускай арміі генерала Баграціёна. Бітва праходзіла недзе ў гэтых ваколіцах, астанкі загінуўшых у ёй рускіх салдат і афіцэраў былі потым перанесены на могілкі ў Саколку і на магіле паставілі помнік, які захаваўся да нашых дзён. Ці такі радавод таямнічай капліцы праўдзівы, рукі адсячы даць нельга, але такое меркаванне мае ўласцівасці праўдападабенства, бо аб'ект аніяк не вяжацца з мясцовай будаўнічай традыцыяй, а ўзвялі яго вопытныя майстры. Шкада толькі, што ніхто не дбае пра




## ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ

*Бюракраты мілыя,*
*Прашу ў вас прабачэння,*
*Што я, разява, палічыла вас*
*За людзей сумленных.*
*І хабара не прынесла вам,*
*Мілыя паночкі,*
*Пашкадавала (вось ды скнара!)*
*Апошняй сарочкі.*
*І не магу вам прынесці*
*(З голага як з святога),*
*Але сумленнымі лічыць*
*Не буду вас больш, яй-богу.*

**Цётка Мальвіна**

# Грамадскія залатоўкі на НФОЗ

Жыхары Кляшчэлеўскай гміны ўжо пяты год выконваюць план зборкі грошай на Нацыянальны фонд аховы здароўя. Найлепш рэалізуюць яго сяляне і школьная моладзь. Яны ўжо выканалі яго ў 105%. Гадавыя планы зборкі грошай на НФОЗ поўнасцю выканалі жыхары наступных вёсак: Дашы, Грузка, Тапаркі, Палічна, Пятроўшчына, Сакі, Сухавольцы, Рэпчыцы і Жукі. Заслуга гэта солтысаў і работнікаў службы здароўя.

Падцягнуцца павінны яшчэ сяляне з вёсак: Кляшчэлі, Дабрывада і Залешаны, якія дагэтуль выканалі гадавы план усяго ў 50 працэнтах.

Насельніцтва Кляшчэляў намерана са сродкаў НФОЗ пабудаваць дзіцячыя яслі.

**(яц)**



**Дарожныя партрэты.** Ну як жа ж тут не наведаць суседку?! Вёска Войшкі. 1980 г.

Фота М. Гайдука.

### ПАБУДАВАЛІ ДАРОГУ

Сяляне з Юшкавага Груда пабудавалі сабе дарогу на сенажаці. Цяпер дзе-нідзе дадаткова насыпалі пяску і жвіру, паколькі зялёныя ўгоддзі вельмі размоклыя і фурманкі ў тым або іншым месцы гразлі. Гэтая дарога была даўно неабходная. Але ўжо ў апошнія гады з празмернымі ападкамі на мясцовыя сенажаці немагчыма было ехаць.

**(яц)**

### ЗАКАНЧВАЮЦЬ ПАБУДОВУ РАМІЗЫ

У Бандарах заканчваюць пабудову пажарнай рамізы. У апошнім часе будынак атынкавалі, уставілі дзверы і вокны (нядаўна зрабілі і падаконнікі). У будынку ставяць унутраныя сценкі. Неабходна яшчэ пабудаваць бетонную падлогу і пакласці паркетныя пліткі. **(яц)**

### КРЫТЫКА ДАПАМАГЛА

У „Ніве“ ад 16 лістапада бягучага года мы крытыкавалі, што ў міхалоўскім вясковым таварным доме выбляклі цэны пры экспанаваных прамысловых вырабах. Цяпер іх папраўілі і лёгка іх расчытаць.

Апрача таго, крытыкавалі мы падворак міхалоўскай бензастанцыі ЦПН. Цяжка было пад'ехаць аўтамашынай да дыстрыбутараў. Зараз на пляцоўцы падсыпалі жужалю і расплянтавалі яго.

Крытыка дапамагла.

**(І. Н.)**

**БУГ У АГНІ**




Кацярына Расткоўская папрасіла нас за стол. Каля яе прысеў цяперашні муж — Эдвард, а з другога боку — яго родны, старэйшы брат, які і па сённяшні дзень не хоча прызнаць сваю братавую.

Ці таму папярэдзілі мяне, каб я не звяртаў увагі на яго паводзіны, што ён ужо зусім састарыўся і не ведае, што гаворыць? Але з другога боку, дачка Кацярыны — Марыя Баркоўская, гаварыла мне, што гэты ж дзядзька, брат Эдварда, якраз ёй найбольш давяраў, нават перадаў на захаванне даволі вялікую суму грошай, бо баяўся трымаць іх у сябе дома.

За сталом аднак пануе поўная згода. Гаворым пра звычайныя, штодзённыя справы, наракаем на непагадзь, на балота, у якім мы заселі так, што без дапамогі трактара не абыйшлося...

А мяне, як назойлівая муха, усё мучыць думка: як заснавалася гэтая сям'я? Яна — абяздоленая ўдава, без кала і двара, з дзвюма дзяўчынкамі-сіроткамі на руках, да таго ж — іншай нацыянальнасці і веравызнання. Ён — багаты гаспадар, у сям'і якога яшчэ захаваліся шляхецкія традыцыі, глыбока прывязаны да каталіцызму паляк. Як зразумець усё гэта? Ці сапраўды паверыць у сентыментальную гісторыю, якую расказвалі мне сяляне з Мінчэва, што, маўляў, Эдвард Расткоўскі ажаніўся з Кацярынай Сініцынай таму, што яна выратавала яго ад смерці? Ну што ж, думаю, найпрасцей было б іх запытаць пра гэта. Ці аднак не пакрыўдзяцца?

На дапамогу прыходзіць мне яе дачка Марыся.

— У тым, што гавораць людзі, — адзначае яна, — здаецца, ёсць крыху праўды. Я сама дакладна ўсяго не ведаю, бо ўвайшла я ў гэтую сям'ю малой дзяўчынкай. Апрача майго таты, значыць, Эдварда Расткоўскага і яго хаты, я нічога больш не памятаю з майго дзяцінства. Ён аднолькава адносіўся да сваёй дачкі Галіны, якая пазней нарадзілася, як і да мяне. Я насіла яго прозвішча і, каб не „дабразычлівыя“ людзі, можа і па сённяшні дзень не ведала б, што калісьці называлася я Сініцына, што мой бацька быў рускім чалавекам. Тата і мама жылі згодна. Вядома, здараліся і ў іх непаразуменні, асабліва тады, калі ўмешваўся дзядзька, але мама старалася пазбягаць якіх-колеч сварак, больш перажывала ўсё ўнутры. Можа таму якраз цяпер яе сэрца ўжо засім аслабла, мела двойчы інфаркт.

Пані Кацярына і да сёння добра не навучылася польскай мове. Гаворыць так, як палякі з даўнейшых усходніх крэсаў.

Каб даведацца больш пра іх лёс, я пачынаю асцярожна, здалёк.

— Скажыце, калі ласка, калі вы пажаніліся? — пытаю.

Кацярына глядзіць на мужа, муж на яе. Пасля ён гаворыць:

— Касю, калі гэта было? У сорак пятым, здаецца? Ці ў шостым можа?

— Мы павянчаліся 29 чэрвеня 1945 года, — інфармуе Кацярына.

— Значыць, ужо пасля вайны, — амаль усклікнуў я. — А не ў час гітлераўскай акупацыі, як расказвалі мне людзі.

— У час акупацыі Кася толькі ў мяне працавала, — гаворыць Эдвард Расткоўскі. — Я даваў ёй утрыманне і малако для яе дзяўчынак, ну і плаціў крыху грашыма.

— А як вы трапілі да пана Расткоўскага? — звяртаюся я да Кацярыны.

яго — зуб часу значыць на ім смяротныя сляды.

Ну, і трэцяя таямніца — гэта сама назва Воўкушы. Вёска з такою самаю назвай знаходзіцца ў гміне Ліпск на Сувальшчыне. Яна паўстала там, як пацвярджаюць дакументы, у другой палавіне XVI ст. пры дварах на Вялікай дарозе з Гродна ў Аўгустоў і належала да маёмасцей вялікага князя літоўскага і караля польскага, уваходзіла ў т.зв. Гродзенскую эканомію, таксама як і Воўкушы каля Саколкі. Магчыма, што іменна выхадцы з Воўкушаў на Сувальшчыне падчас нейкага прымусовага перасялення прынеслі з сабою і назву роднай мясцовасці. Гэта магло наступіць у часы актыўнай гаспадарчай дзейнасці ў Гродзенскай эканоміі (гады 1765-80) падскарбія надворнага Антонія Тызенгаўза. І тут варта дадаць, што вёска Воўкушы знаходзіцца паблізу колішняга фальварка Ласосна. Бадай на гэтым спынім разважанні пра даўніну Воўкушаў і хоць некалькі слоў скажам пра іх цяперашні час.



*Адна з загадак Воўкушаў — капліца ў стылі барока з канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў.*

З 53 гаспадароў ужо амаль трэць здала зямлю за пенсію дзяржаве. Яна ў асноўным трапіла ў валоданне сельскагаспадарчай спулдзельні ў Ласосне, а тая гаспадарыць так, што плакаць хочацца: цэлыя гектары несабранага збожжа і сена засталіся ў гэтым годзе зімаваць. Хоць у Воўкушах няма тае хаты, з якой нехта не працаваў бы ў горадзе, а за ім не цягнуліся б іншыя родзічы, усё ж тут ёсць многа ахвотных да гаспадаркі. Адсюль выйшлі інжынеры В. Кулік, К. Рашута, ваенны інжынер В. Патапчык, лекар В. Бабынка, аграном Ч. Янцэвіч, шмат моладзі вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах. Але зямлю тут паважаюць. З выдатнымі вынікамі гаспадараць Францішак і Мар'ян Зараховічы, Зыгмунт Патапчык, Станіслаў Хоцей, Станіслаў Шымчук, Вацлаў Шчавінскі, Антон Янцэвіч і шэраг іншых. Але размахнуцца ім не дазваляе якраз нястача зямлі. Той самай зямлі, якую марнатравіць спулдзельня!.. І што на гэта начальства гміны ў Кузніцы?

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# САМАЕ АСНОЎНАЕ — ЧАЛАВЕК

Няма, пэўна, установы, у якой грамадзяне не мелі б сваіх заўваг ці прапаноў. Ад гандлю патрабуем добрага забеспячэння крамаў спажывецкімі і прамысловымі таварамі, ветлівай абслугі. Ад службы здароўя — самаахвярнага лячэння хворых, ад міліцыянераў — каб трымалі лад і парадак. Ад чыгуначнікаў... Тут можна было б напісаць дзесяткі розных заўваг і прапаноў. Напрыклад, курсіраванне цягнікоў, хоць праблема была тэмай публічнай дыскусіі на старонках нашага тыднёвіка і адбылася сустрэча рабочага калектыву з удзелам зацікаўленых з цэнтральнай дырэкцыі ПКП, а таксама я пісаў.

Ды сёння яшчэ раз хачу вярнуцца да таго. А заклікаў мяне П. Байко ў сваіх адгалосках „Падарожны падарожнаму не роўны“. Ён піша: „Намеснік начальніка ЦДОКП Р. Дробік ізноў пацвердзіў, што клопаты „выпадковых“ падарожных не ляжаць яму на сэрцы. Але чаму? Ці чалавек, які карыстаецца з чыгункі раз на нейкі час, мусіць абавязкова ездзіць, скрыгочучы зубамі? Чаму пра нашу выгоду ніхто не дбае?“

Як жа несправядліва да справы падыходзіць мой калега. Такія словы можа сказаць толькі чалавек, які не ведае сутнасці справы. Каб шырэй паясніць, пачну ад спамянутага начальніка дзяржаўнай чыгункі Р. Дробіка. Абсалютна не бараню тут чыгуначнікаў, а хачу толькі даць справядлівую ацэнку чалавеку, які на такую заслужыў.

У час гайнаўскай сустрэчы і маіх размоў з начальнікам Р. Дробікам я зразумеў, што такім людзям можна верыць. Такія не пускаюць слоў на вецер. І кожны падарожны яму блізкі. А што справа давозу рабочых на работу, а дзяцей у школу, з'яўляецца першчарговай, гэта зусім зразумела кожнаму.

Не мінуў і месяц часу, а вынік нарады быў выразны. Пачаў ездзіць цягнік Бельск-Чаромха (які прыходзіць зараз у 6.30) і прадоўжылася курсіраванне цягніка Семяноўка-Чаромха да Сямяціч (а 21.30). Начальнік сказаў слова і стрымаў яго. Гэта важна.

Праз некалькі дзён шум. Чаромхаўскія начальнікі крычалі, што цягнікі гэтыя непатрэбны. А я хачу яшчэ раз падкрэсліць, што начальнік Р. Дробік хоча дагадзіць людзям працы. Ён не намагаўся аднабакова вырашаць справу. Не звяртаўся да дырэктара ДРКП, а адклікаўся да начальнікаў станцый і да мяне як прадстаўніка рэдакцыі і грамадскай апініі. Хацеў ведаць, што гавораць людзі на тэму дабаўленых цягнікоў, колькі імі ездзіць падарожных. Хацеў ведаць погляд нашай рэдакцыі. І ўсё, што мне было вядома, я перадаў начальніку. Перадаў таксама начальніку Р. Дробіку пункт гледжання гмінных улад Белавежы на тэму „вагадла“ (курсіравання цягніка Белавежа-Гайнаўка ў роўных адрэзках часу). Апінія начальніка Белавежскай гміны, чалавека аўтарытэтнага, зусім іншая, чым П. Байко. Каму верыць? Тэма застаецца далей дыскусійнай. Хачу толькі дадаць, што кожная прапанова ці крытычная заўвага будуць разгледжаны ў цэнтральнай дырэкцыі ПКП. Толькі выгад не трэба чакаць. Але руская прымаўка вучыць: „Лучше в тесноте, чем в обиде“. Святая праўда. У адным прызнаю рацыю П. Байко. Кожны падарожны мае права патрабаваць добрага абыходжання з боку дзяржаўнай чыгункі ў адносінах да пасажыраў. І ў тым напрамку трэба нам працаваць, трэба біць трывогу.

Няма зараз цягніка, які прыйшоў бы на станцыю па расліканню. 10, 20, 130 мінут трэба чакаць, каб праехаць некалькі кіламетраў. А калі дадаць чаканне на прыпынку пад голым небам, гэта ўжо будзе скандал. Ёсць спазненні, незалежныя ад працаўнікоў ПКП, — лопне рэйка, нейкая іншая прычына. Але калі трэба чакаць кандуктара, машыніста, ці дзяжурнага падымаць на ногі — гэта ўжо не падлягае ніякай сэнсоўнай дыскусіі.

Ёсць яшчэ адна прычына спазненняў, адна з важнейшых. Чаму ў першую чаргу прапускаюцца таварныя паязды (калі пасажырскі крыху спазняецца), а потым пасажырскія? Ад дыспетчараў ДРКП залежыць, у якой чарзе пойдуць цягнікі. Ад самастойнасці і добрасумленнасці працы залежыць, як мы будзем ездзіць. Трэба заўсёды памятаць, што самае асноўнае — чалавек і з ім трэба лічыцца. Ад адказных працаўнікоў чыгункі можам патрабаваць людскіх адносін да падарожных, як і лепшых умоў падарожжа — чыстых і цёплых вагонаў, а таксама ладу і парадку на чыгунцы і ў цягніках. Ад гэтых спраў нельга нам адступаць.

**Ул. Сідарук**

— Бяда, пане, прывяла, — кажа яна. — Бяда ўсяму навучыць, — дабавіла пасля хвіліны маўчання. — Жыла я ў Мінчэве. Жыла з таго, што зарабіла, што добрыя людзі захацелі мне даць. У Качынскай, якая мяне прыгарнула да сваёй хаты, была толькі адна карова. Малака не хапала для яе сваіх чацвярых сіротак. На вадзе, хлебным квасочку раслі мае дзяўчынкі. Іншыя мае сяброўкі, жоны савецкіх афіцэраў, хадзілі па вёсках, міласціну ў людзей прасілі. І я, памятаю, адзін раз пайшла з торбаю. Толькі ад сораму вачэй падняць не магла і словы не праходзілі з вуснаў. Дамоў вярнулася амаль з пустымі рукамі. І больш я не пайшла па просьбе...

Яна — сялянская дзяўчына, прывучаная да цяжкай працы. Так яна, працуючы, пражыла ў Мінчэве да лета 1943 года.

— Пахварэлі мае дзеці, — расказвае цётка Кацярына. — Гэтая пакойная, што пазней утапілася, Рэгіна, найгорш цярпела. Былі ў яе балячкі. Цэлую галоўку обселі. Месца не было, дзе дакрануцца... Мучылася бедная Раечка... І я з ёю. Сяброўкі раілі мне выйсці замуж...

— Якія сяброўкі? — пацікавіўся я.

— „Саветкі“, такія ж, як і я, — паяс-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 3)

# ПАПАРАЦЬ

людскога ўяўлення. Трэба было ісці па яе заўсёды ў лес, каб не даходзілі галасы вясковага быту. Гэта яшчэ больш узмацняла цяжкасць. Страшная бура падымалася, дрэвы вывальваліся, лясуны зводзілі, а кажуць, чым бліжэй да папараці-кветкі, то нават і чорта ў сваім найагіднейшым выглядзе ўбачыць можна было. Але хапіла быць адважным, не спалохацца ды не аглянуцца, каб авалодаць гэтай чароўнай кветкай. А тады ўсё навокал замоўкне, дрэвы ўстануць, неба выпагадзіцца і чалавек пачне ўсё разумець. Зразумелай стане мова птушак і звяроў, пошум дрэў і траў, адкрыецца зямля ў тым месцы, дзе чорт пазакопваў скарбы і стануць яны даступнымі ўладальніку кветкі.

— Кажуць, калісьці адзін чалавек, ідучы купалаўскай ноччу лесам, — расказвае інфарматарка з Гародчына, — пачуў, што яму нешта ў нагу пячэ. Хацеў ён было зняць бот, аж бачыць: на зямлі так як бы агеньчыкі гараць. Падыходзіць ён да гэтага месца, глядзіць — а там поўна золата. Толькі ён ступіў туды, як чуе, што поўны чаравік насыпаўся. Давай разбуваць ды высыпаць у шапку. І тут выпала кветка папараці, упала на зямлю і ўсё прапала. Пагаслі агеньчыкі.

У іншых мясцовасцях, бліжэй Бельска ды пад Орлю, гавораць, што, убачыўшы на зямлі агонёк, трэба кінуць у тое месца чаравікам, а поўны насыплецца золатам. Але так кідаць, каб кветка не вылецела ды не ўпала на зямлю. Тады ўсё прападзе.

І так яно бывае ва ўсіх расказах. Гэта не што іншае, як візія шчаслівага быту, але толькі візія. Па сутнасці ён не рэальны і недасяжны, бо то забудзецца чалавек пра перасцярогі і дасць жменю золата некаму з блізкіх і тады ўсё прападзе, або згубіць кветку, як Яська Станіслава Выспянскага „залаты рог“. Кветка папараці — гэта свайго роду сімвал шчасця, чалавечая мара. А заадно паказаў ён цяжкі шлях да яе здзяйснення.

Апрача носьбітаў казачнага летуценнага свету шчасця, папараць як расліна мела, так як і крапіва, асіна, ядловец, уласцівасці апатрапеічныя. Перад святам Яна затыкалі яе над вокнамі, дзвярыма хаты і гаспадарчых будынкаў. Бараніла яна людзей і жывёлу перад чарамі, ведзьмарамі, злой сілай.

**Міхась Шаховіч**

З РАСКАЗАЎ ДЗЕДА РАМАНЧУКА

# ПРЫКАЗ

Прыйшоў прыказ Янку заўтра на 9 гадзіну раніцы з'явіцца ў Звярынец. Трэба сёння ж гэты прыказ з вечара занесці і ва ўрочышча Новы Мост ахотніку Кічкайле. Наступала ноч. Прыказ прыказам — мае быць выкананы. А як? Хто панясе? Янка сам не зможа: яму трэба рыхтавацца ў дарогу, заснуць трэба. І раненька досвіткам устаць, каб паспець упору зайсці за 14 вёрст у Звярынец. Янка кажа дзецям: „Хлопцы! Трэба сёння даставіць прыказ у Новы Мост! А што ноч — не бойцеся. Я вам дам смаляное зубіла (смаляны факел), запаліце і смела можаце ісці праз лес. Воўк баіцца агню і ўцякае, а іншыя зверы таксама. Чаго ж вам баяцца? Пойдзеце ўдваіх. Будніцкая дарога ідзе далей, а вы ідзіце па трыбе, паміж 95 і 96 кварталамі. Дойдзеце да Падляшскай дарогі, а там за паўвярсты будзе праз трыбу мокра, алёс. Але ёсць кладка, пяройдзеце. Пасля трэба вам будзе прайсці тры вярсты, пакуль трыбу перасячэ дарога з Гайнаўкі ў Новы Мост. Павернеце ўлева па дарозе, і там недалёка будзе Новы Мост.

Старшы мой брат Ёзып не толькі не баяўся ісці, але быў рады гэтаму. Чаго яму баяцца? Ён меў самадзельную стрэльбачку — абрэзак, а порах адхапіў у бацькі. А калі запаліць яшчэ зубіла, дык ніякага страху няма. Галена — маці, як маці — занепакоілася: „Як жа гэта ноччу выпраўляць дзяцей у лес, сярод пушчы! Як жа гэта можна! Страх!“ Але ж, як кажуць, „Служба — не дружба“! Прыказ трэба выканаць.

Хлопцы з зубілам у руках і запалкамі ў кішэні выйшлі з дому ў цямраву ночы. Дайшлі да лесу і распалілі зубіла. Агонь трашчаў, асвятляў лес і здавалася, што за кожным дрэвам, за кожнаю ялінаю хтосьці хаваўся і выглядаў, хаваўся і выглядаў. Цені перамяшчаліся, беглі за намі. Лес ажыў, качаў галовамі, глядзеў на нас, смелых хлапчукоў, а мы дзіваваліся: такога паходу з агнём ноччу па пушчы мы сабе і не ўяўлялі.

Прайшлі па трыбе да Падляшскай дарогі і да 120 квартала, а там з гушчару выскачыў рагаты алень з самкаю і перасёк нам дарогу. Мы пералякаліся крыху, але як звер уцякае, то страху няма. Дайшлі да альса, да балота і вады. Кладка была слізкая, і я ссунуўся з кладкі ў балота. Але гэта не бяда! Дайшлі да Гайнаўскай дарогі, павярнулі налева і вось — Новы Мост. Пасярэдзіне лесу, з аднаго боку і з другога дарогі, стаяць дзве леснічоўкі з гаспадарчымі будынкамі. Сосны і векавыя дубы глядзяць у неба. Кругом лес шуміць. Цішыня. Толькі зоркі праз гушчар лесу дзе-нідзе праміргваюць. У адной леснічоўцы пражываў ахотнік Кічкайла, а ў другой ляснік Габец Раман. Загаласілі раптам сабакі. Мы пастукалі ў дзверы Кічкайлы. „Хто там?“ — грозна закрычаў гаспадар. — „Адчыніце! Прыказ!“ Перад гэтым словам дзверы і ўначы адчыніліся. Упусцілі нас у хату і дзіваваліся, што мы, маладыя хлопцы, не пабаяліся ночы і лесу, а даставілі прыказ. Жонка Кічкайлы паслала нам пасцельку і мы соладка пазасыналі.

Кічкайла раненька выехаў у Звярынец. Нам няспешна было дамоў. У Габцовых былі два хлопцы і дзве дзяўчынкі. Мы пайшлі пагасціць і да іх. Каля хаты была зроблена гойданка: два высокія стаўбы з перакладзінай, дзве бярозавыя гладкія аглобелькі з падножкаю ўнізе. Трэба было стаць на падножку двум і, выгібаючыся, разгойдвацца. Хлопцы так высока разгойдаліся, што аж страшна было глядзець. Прыйшла чарга і на мяне, а са мною стала на падножку Юля Габцова, дзяўчынка падросшая. Мы так пастараліся разгойдацца, што я мала не сарваўся. Дадому вярталіся мы другою дарогаю, праз бор па Будніцкай дарозе.

**У. Г.**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПРА БУЛЬБУ

Ведаем, што ў гэтым годзе бульба не ўрадзіла. І таму сяляне не возяць яе прадаваць у магазіны ГСу. Аднак бульба патрэбна і неабходна людзям у гарадах, у бальніцах... Таму ў Дубіцкай гміне адбылася акцыя, якая пачалася ад партыйных і сялянскіх сходаў, дзе гаварылася, каб кожны селянін паводле свайго гонару і магчымасці прадаў дзяржаве бульбы колькі зможа, хоць бы 50, 100, 500 кг. Ну, хто колькі зможа.

Многія сяляне адгукнуліся на гэты заклік і прадалі бульбу ў нашым філіяле ГС. Такім чынам дубіцкі ГС купіў больш як 40 тон бульбы. Магло б быць і больш, але некаторыя сяляне засталіся глухімі на патрэбы і заклік і нічога не прадалі. І цікава, што гэта тыя сяляне (найбольш спецыялісты), якія могуць і больш прадаць, бо маюць бульбу. Ды яны не збагацеюць, а тыя, што прадалі і маюць такім чынам чалавецтва і гонар, нічуць не збяднеюць, а жыць будуць з чыстым сумленнем.

**М. Панфілюк**

## ДЗЯКУЕМ „ВАСІЛЁЧКАМ“

Мы, жыхары і моладзь сяла Крывяцічы, за пасрэдніцтвам „Нівы“ хочам сардэчна падзякаваць за вельмі мілы канцэрт у нашай святліцы хору „Васілёчкі“ з Бельска, які прыехаў і выступіў для нас у нядзелю 23 лістапада. Выступленне было вельмі добрае, удалае. Прыгожыя беларускія песні вельмі спадабаліся нам.

Быў гэта першы канцэрт „Васілёчкаў“ у нашым сяле. Будзе добра, калі калектыў „Васілёчкі“ прыедзе да нас у пачатку 1981 года. Сардэчна запрашаем хор у Крывяцічы. Жыхары сяла чакаюць. Асабліва спадабаліся песні ў выкананні А. Ясюка і Ю. Гаўрылюка. Пасылаем сардэчную падзяку хору „Васілёчкі“.

**Ольга Дружба, Зінаіда Бобік, Ян Бобік, Васіль Суліма, Яўгенія Шэршань, Фёдар Рагоза.**

## ЯК ВЫРАШАЦЬ?

У апошні час у кляшчэлеўскім ГСе немагчыма ў краме купіць шкло. Ёсць, праўда, у пасёлку паслуговы шклярскі пункт, у якім можна выразаць шыбу ў акно, ды трэба тут пераплачваць. Я, напрыклад, вырэзваў там шыбу і заплаціў „чырвонца“ (100 зл.). А калі б я купіў такі аркуш у краме, каштавала б мне не больш як 50-70 зл. Некаторыя сяляне самі патрапяць выразаць шыбу. Навошта выкідаць лішнія грошы! У кляшчэлеўскім пункце я не бачыў цэнніка за паслугі, а такі там неабходны. Мне здаецца, што гэтую праблему трэба інакш вырашыць. Калі гаворыцца аб дагаджанні насельніцтву, дык гэта трэба рабіць без лішніх цырымоній. **(ус)**




### НЯХАЙ ВЕДАЕ

*Было здароўе,*
*Быў адкрыты свет.*
*Круг сяброў,*
*Звонкі дзявочы смех.*

*Былі кахання словы,*
*Мары аб будучыні.*
*Усюды быў патрэбны,*
*Дзе толькі ні зірні.*

*Прыйшла хвароба,*
*Засталося што?*
*Цёмная заслона*
*Аддзяліла ўсё.*

*Засталось цярпенне,*
*Насмешкі людзей —*
*Адзін скажа: дурань,*
*Другі — нашто жыве.*

*Здаецца, ў цярпенні*
*Трэба памагчы,*
*Не кусаць, як восы —*
*Старацца прыпячы.*

*Часам добрае слова*
*Больш, чым які лек.*
*Аб тым няхай знае*
*Кожны чалавек!*

**В. Грынявіцкая.**

## ЯК Я ПІСАЎ У „НІВУ“

Калі я пачаў гартаць свой карэспандэнцкі блакнот, убачыў, што за апошнюю пяцігодку сабралася шмат маіх матэрыялаў. Ад 1975 года да гэтага часу было надрукавана больш 400 маіх карэспандэнцый. Гэта і многа, і мала. Калі б сістэматычна пісаў, было б намнога больш. Але як у кожнага з нас, у мяне быў асабісты крызіс. Ён праявіўся ў мяне ў 1976 годзе, бо тады было змешчана ўсяго 47 маіх публікацый. У той час думаў я зусім спыніць карэспандэнцкую дзейнасць. Абставіны змяніліся. Перамог сябе. Пішу далей.

Тэрыторыя маёй дзейнасці — гміны Чаромха і Кляшчэлі, суседняя ваколіца, нават адлеглая Бельшчына, тэрыторыя Мілейчыцкай гміны. Пішу адтуль, дзе нешта цікавае ўбачу, глытаю праблемы, якіх у нашым асяроддзі ўсё больш і больш.

Вялікую ўвагу прысвячаю „Казкам для дарослых“. Гэта проста запіс сапраўдных фактаў. І кожны чытач напэўна адразу пазнае маіх герояў.

У час маёй дзейнасці як карэспандэнта не было выпадку, каб нехта не падаў мне даных для артыкула ці інфармацыі. Людзі проста і самі прыходзяць са сваімі клопатамі, з тым, што іх хвалюе. Цешуся, што магу камусьці ў чымсьці памагчы. А за шчырасць і давер усім вялікае дзякуй.

**Ул. Сідарук**

## ХА, ХА, ХА...

Не ведаю адкуль узялося ў мяне тое, што часам люблю паглядзець праз шчыліну ў замку.

Была я нядаўна ў гміне. Бачу, сядзіць ст. рэф. да спраў падаткаў і дываны сшывае. Другі працаўнік пытае: чаму яна гэта робіць? Сакратар бюро: прыбіральшчыца мае дзесяць гадоў стажу і нават яна не хоча мяне слухаць.

Праз некалькі мінут сход працаўнікоў. Працаўнік кажа: сёння я бачу, што ст. рэф. замест налічваць падаткі, дываны сшывае. Сакратар зноў паўтарае, што прыбіральшчыца... і гэтак далей. Працаўнік: хто ў нас большую ролю адыгрывае — сакратар ці прыбіральшчыца. У зале: ха, ха, ха...!

Калі будзе такая дысцыпліна, цяжка будзе правесці маральную аднову грамадства.

**Мар'я Пень**

## СЛУЖБОВАЯ ТАЯМНІЦА

Ці сапраўды нельга паглыбляць ведаў аб сваім асяроддзі? Захацела я напісаць інфарматар аб гміне Дубічы Царкоўныя. Падумала, што варта ў ім паставіць такія праблемы: геаграфічнае асяроддзе, насельніцтва, сельская гаспадарка, абслугоўванне сялян, лясніцтва, структура зямлі, структура ўласнасці зямлі, расход штучнага ўгнаення, таварная прадукцыя, транспарт і сувязь, гандаль і паслугі, асвета і культура, ахова здароўя і грамадская апека, адміністрацыя і палітычна-грамадскае жыццё.

Хацела б на пачатак успомніць нешта з гісторыі гміны. Многа я зрабіла сама, але калі трэба было дастаць даныя ад працаўнікоў, пачула словы: службовая таямніца.

Цяпер я знаю, якая цяжкая работа журналістаў. Калі людзі не ведаюць, хто ты, усё скажуць. А калі даведаюцца, што журналіст ці карэспандэнт, усё становіцца вялікай таямніцай.

Я так адчуваю сябе, як бы не выканала важнага партыйнага задання. Куды звярнуцца, каб атрымаць патрэбныя лікі? А мо зноў да гміны, бо на крэсле ад планавання і статыстыкі змяніўся працаўнік? Але калі таямніца?

**Мар'я Пень**

## ЦІ СХОД-ФІКЦЫЯ?

Апішу адно здарэнне. Тры разы солтыс з вёскі Тафілаўцы паведамляў жыхарам вёскі, што прыедзе нехта з СКР Дубічы Царкоўныя. На трэці раз прыехаў кіраўнік СКР Ян Саевіч. Выбралі новае праўленне гаспадарскага гуртка. Людзі пытаюць: праўленне мы выбралі, а як будзе з паслугамі? Кіраўнік СКР: маем 19 трактараў. Бярэм пад увагу, што адзін будзе сапсаваны. Каб загаспадарыць сваю зямлю, СКРу трэба 15 трактараў. Значыць, на 24 вёскі застаецца тры трактары.

Сяляне: значыць сённяшні сход — гэта ўсё фікцыя? Кіраўнік СКР: так!

**Мар'я Пень**

## ЗА ШТО СПЯВАЮЦЬ?

У адзін дзень на пяць гадзін пасля поўдня ў Ягадніках быў абвешчаны канцэрт Арэшкаўскага фальклорнага ансамбля. У той дзень, а была гэта нядзеля, яшчэ перад вызначанай гадзінай у клубе сабралася невялікая група людзей, якія хацелі паглядзець і паслухаць ансамбль. Мінула пятая гадзіна і з'явіўся аўтобус са слаўнымі арэшкаўскімі жанчынамі. У клуб увайшлі кампетэнтныя асобы, і зараз стала вядома, што канцэрт не адбудзецца, бо мала гледачоў і не аплочваецца выступаць.

Аўтобус ад'ехаў, а праз нейкі час пачалі плысці людзі, каб пабачыць выступленні, але самадзейнікаў ужо і блізка не было. А ці ж не варта было пачаць канцэрт? Людзі ж на вёсцы, вядома, зыходзяцца нават са спазненнем невялікім, але прыходзяць заўсёды і ніхто не пашкадаваў бы 15 злотых на білет. З другога боку — ці ж можна ўжо так кіравацца толькі тым, што не аплочваецца? Ці ж толькі за грошы можна выступаць?

**Ян Карчэўскі**

## ШТОГОД ТОЕ САМАЕ

У пачатку вёскі Кузава, на павароце каля хаты Міхася Канарэўскага, заўсёды засыпае вуліцу снегам. За некалькі дзён ляжыць тут ужо да метра-паўтара снежнага пакрывала. І праз гэтакі снег дзеці ідуць у школу, рабочыя на працу. Пісаў я аб гэтым у „Ніве“, і здавалася ўжо, што праблема будзе вырашана. Гміна аформіла платы супраць снегу. Не было каму іх паставіць, дык начальнік уладзіў, што платы паставім на кошт гміны. Але зноў вясною не было каму іх прыбраць. Мусіў зрабіць гэта гаспадар, на полі якога платы стаялі. Але пасля сказаў, што больш не пазволіць платоў ставіць, бо навошта яму лішнія клопаты. Справядліва!

А кузаўцам галава не баліць. Лепш ім, відаць, корпацца ў снезе, чым паставіць платы. Цяпер тыя платы стаяць каля дарогі, быццам чакаюць, хто зліітуецца і паставіць іх на месца. На кузаўцаў няма чаго спадзявацца. І што ж можна сказаць аб такіх жыхарах вёскі, а перш за ўсё аб солтысе?

**(ус)**

### Кажуць што...

...чаромхаўскія чыгуначнікі так разбагацелі, што не ведаюць, куды грошы дзяваць. У мясцовых крамах выкупляюць усё, нават тое, што непатрэбнае ў хатняй гаспадарцы. Цікава толькі, на як доўга хопіць ім дамашніх „складаў“ і дзе потым усё гэта падзенуць... **(ус)**

## КАРХІ — ЦІКАВАЯ НАЗВА

Зацікавіў мяне артыкул пад загалоўкам „Хто даў назву Гайнаўцы“. Найхутчэй выводзіцца з назвы „гай“, кругом распалажана Белавежская пушча, лес. Сёння сустракаем беларуска-польскую назву леснічоўка, а ў народзе часта называюць яе гаёўка, там дзе жыве гаёвы.

Але магчыма, што Гайнаўка выводзіцца з нямецкага прозвішча, напрыклад, Гейнэ. Бо, напрыклад, блізка нас, каля станцыі Вітава, ёсць хутарок, які афіцыяльна называецца Краскаўшчызна, але ў народзе завуць Кархі. А тут жыў і сёння жывуць чатыры гаспадары прозвішчам Корх і ўсе яны блізкія сваякі. Праўдападобна, нейкіх 200 год таму назад, пра-прадзед Кархоў — Корф тут пасяліўся, куток гэты маляўнічы і прыгожы.

Цікава яшчэ і тое, што некаторыя з Кархоў умелі гаварыць па-нямецку, напрыклад, Міхал Корх (памёр яшчэ пры санацыі). Пры нямецкай акупацыі гэты хутарок быў ліквідаваны, гэта значыць, жыхары яго былі вымушаны перасяліцца ў іншыя месцы. Некаторыя пайшлі ў Вітава, адзін жыў у Дубічах з сям'ёю, быў гэта Антон Корх. Сёння на Корхах чатыры сям'і. Яшчэ пры санацыі два браты — Іван і Сымон Кархі пайшлі ў прымы ў Дубічы Царкоўныя. Іван нядаўна памёр, а Сымон і сёння жыве — дасканалы каваль з яго, пісалася аб гэтым нават у „Ніве“.

**М. Панфілюк**

## З АДНАГО ГЕАГРАФІЧНАГА АТЛАСА

Вучэбны геаграфічны атлас, складзены Э. Ю. Петры, выданне А. Ф. Маркса ў С. Пецярбургу на 19 геаграфічнай карце падае Беласточчыну і іншыя ваяводствы, якія былі пад Расіяй, што земляробства тут замнога прадукуе хлеба, гэта значыць збожжа. Гэтая частка нашага краю была раёнам жытне-аўсяна-бульбяным. Апрача таго, атлас падае гадоўлю хатняй жывёлы. І так, на сто жыхароў прыпадала ад 200 да 300 штук кароў, авечак і свіней. На Беласточчыне авечкі складалі 40-50 працэнтаў усёй хатняй жывёлы. Варта прыпомніць, што ў тыя гады было многа сем'яў многадзетных і сто жыхароў смела магло быць толькі дзесяццю сем'ямі-гаспадаркамі.

Гэтая частка нашага краю займалася і прамысловасцю. Той самы атлас на 20 карце падае, што ў год прадукавана жалезных, чыгунных і стальных вырабаў на 20 і больш мільёнаў рублёў, вырабаў са скуры на 3 і больш мільёна рублёў, ваўняных — на 20 і больш мільёнаў рублёў, іншых фабрычных вырабаў — на 200 мільёнаў рублёў, баваўняна-папяровых на 20 мільёнаў рублёў.

Знішчаны год выдання гэтага атласа. Але супастаўляючы ўсе дадзеныя, акрэсліваем год яго выдання ў С. Пецярбургу на 1890 год.

**М. Ляшчынскі**

## ДВА РАЗЫ

Сяляне плацяць страхоўку за коней і кароў ад штукі, — гэта добра. За свіней сялянам налічваецца страхоўка ад гектара зямельных угоддзяў. Гадуеш — не гадуеш свіней, а плаціць страхоўку трэба. Калі закантрактуеш парсюка і завязеш на пункт скупкі, то тады другі раз адлічваюць страхоўку па 70 грошай за кілаграм. А гэта мне здаецца несправядлівым. Бо калі ўжо раз плаціш страхоўку ад гектара, то не трэба браць ад штукі.

Другая справа — гэта лячэнне хатняй жывёлы. Калі мы, сяляне, плацім страхоўку, дык лячэнне павінна быць бясплатнае.

**М. Лук'янюк**

## НАША ПОШТА

**Аліна Кулеша, Адрынкі.** Ваша інфармацыя аб магіле ў вёсцы, якую мы апублікавалі, была вельмі слушная. Трэба наканчыць нам ужо з помнікаманіяй. Пішыце ў далейшым аб розных справах.

**Дамініка Івацік, Ахрымы.** „Хачу апісаць вам, якое мяне спаткала гора. Легла вечарам спакойна і заснула. Ніякага болю не адчувала. У 10 гадзін прыходзіць солтыс з аграномам. Падыходзяць да дзвярэй, а яны замкнуты з хаты. Здзівіліся, чаго я так доўга сплю. Давай пад акном крычаць, будзіць мяне. Пабеглі да суседа, вынялі акно, глядзяць, а я ляжу непрытомная. Выклікалі „хуткую дапамогу“, забралі мяне ў бальніцу. Пазванілі ў Беласток да зяця і дачкі. Прыехалі ў бальніцу. Доктар гаварыў, што будзе ўсё добра. Праз два дні мне стала лепш. Вялікае дзякуй дактарам. Выйшла я з бальніцы, прачытала тыя пісьмы, што да мяне былі напісаны. Пісаў Мікалай Панфілюк. Дзякуй яму за ветлівыя словы. Адно пісьмо атрымала, не знаю ад каго, падпісана „аўтар „Запісак натураліста“. У „Ніве“ многа чаго напісана, яшчэ не паспела ўсяго прачытаць“.

**І. Міско, Слонім.** Сардэчнае дзякуй за сем каштоўных кніг, якія вы прыслалі нам. Усе прыдадуцца. Нумары „Нівы“, пра якія ўспамінаеце, што не атрымалі, вышлем.

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Саколцы поезд, які ехаў з Кузніцы, падбіў чалавека, што ішоў каля самых рэек. Чалавек забіты на месцы.

На дарозе з Беластока ў Карыцін „Фіят 125“ наехаў на неасветленую фурманку. У выніку пасажыр „Фіята“, чалавек 48 гадоў, загінуў на месцы.

У Васількове самаход, падаючыся назад, наехаў на чалавека, якога забіў на месцы.

